Газета заснавана ў 1931 годзе. Адноўлена ў 1999 годзе.

# Голас Пружаны

№ 5 (5)
Пятніца,
29 верасня-
5 кастрычніка
2000 года

Штотыднеавая незалежная грамадзка-палітычная газета

Кошт свабодны

2 старонка ЦЕНТР ТРУДОВОЙ РЕАБИЛИТАЦИИ

3 старонка НАША ИСТОРИЯ: ВОССТАНИЕ 1863 ГОДА

4 старонка ЧЕМ ОПАСНА ЧЕСОТКА И КАК ОТ НЕЕ ИЗБАВИТЬСЯ

# ВЫБАРЫ? ІХ НЯМА

*Артыкул, які мы прапануем вашай увазе, не нясе палітычнай афарбоўкі, як гэта можа падацца. У ім наўпраст яскрава выкладзена грамадзянская пазіцыя чалавека, неабыякавага да сённяшніх рэалій, і ўжо гэтым цікавая. Нам! Спадзяемся, што і вам.*

**Сымон Глазштэйн (Магілёў)**

**Я вырашыў байкатаваць выбары.**

Гэта не палітычная акцыя Сымона Глазштэйна, гэта – грамадзянская пазіцыя. І я, выказаўшы яе, мушу патлумачыць, чаму яна такая.

Мажліва, няварта таго рабіць, бо, здаецца, быў Кангрэс дэмакратычных сілаў. Здаецца, усе партыі дэмакратычнага блоку вызначыліся, і вырашалі. Рашэнне было цвёрдае: выбары ў Палату не пра нас. Подпіс пад лістамі паставілі ўсе. Сфатаграфаваліся. Далі інтэрв'ю. Разышліся.

**Выбары і выбрыкі**

І вось тады, калі ўжо не трэба было глядзець у вочы, узгадваць пра абяцаны байкот, пачаліся выбрыкі. Спачатку, напрыклад, спадар Статкевіч заявіў, што ён сам, безумоўна, выбары ігнаруе, але ж ня можа астатнім забараніць рабіць тое ж. А крыху пазней высвятляецца, што і сам лідар БСДП (НГ) балатуецца. Потым усё тлумачыцца развагамі "рэальнай палітыкі". Маўляў, сп. Статкевіч атрымае легальнасць і нейкую трыбуну. А сп.Чыгір паведаміў, што, зразумела, падтрымлівае рашэнне Кангрэсу, але мусіць пазмагацца за мандат, каб запабегчы чарговага затрымання. Што там сказалі спадары Грушавы, Злотнікаў, Навасяд энд компані, я ўжо і не памятаю. Бо патлумачыць, і абгрунтаваць можна ня толькі што згодніцтва, а літаральна ўсё, адно яны так і не ўзгадалі: супольныя рашэнні Кангрэсу і адзіную волю апазіцы. Фактычна мы бачылі, як рашуча і натхнёна ўсе памянёныя асобы зрабілі апазіцы ручкай. І іх тлумачэнні ўласных крокаў мяне, як грамадзяніна, падштурхнулі да таго, каб яшчэ раз, больш дакладна і жорстка, зафіксаваць сваю грамадзянскую пазіцыю. Бо ў які раз нам прапаноўваецца, як дурням, бегчы туды, куды нехта ўкажа. Толькі раней гэта звычна былі камуністычныя правадыры. А цяпер іх функцыю на сябе ўзялі некаторыя дзеячы, што памылкова ўсё яшчэ лічацца апазацыйнымі. І ім апрыоры (хто гэтак вырашыў?!) трэба верыць.

Трэба было верыць, калі наладзілі фарс з альтэрнатыўнымі выбармі прэзідэнта, трэба верыць, калі яны пачнуць удзельнічаць у фарсе, наладжаным "безальтэрнатыўным" прэзідэнтам.

**Выбары прадугледжваюць, што ёсць некалькі варыянтаў прыняцця рашэння.**

Яны прадугледжваюць, што гэта рашэнне прымаю я. І сума такіх асабістых рашэнняў, прынятых ва

працяг на 2 старонцы



## Ад рэдакцыі

Паважаныя чытачы, просім прабачэння за працяглую затрымку з выхадам нашай газеты. Спадзяёмся, што Вы і надалей захаваеце цікавасць да нашага выдання.

Калі Вы жадаеце атрымліваць "Голас Пружаны" рэгулярна, то можаце падпісацца ва ўсіх аддзяленнях сувязі, кіёсках "Саюздруку", ці рэдакцыі, або ў сваіх паштальёнаў.

Кошт падпіскі на месяц 330 рублёў. Падпісны індэкс 63642.

Рэдакцыя запрашае на работу супрацоўнікаў у аддзел падпіскі распаўсюджвання.



**73 дня как оператор телекомпании ОРТ Дмитрий Завадский исчез 7 июля в аэропорту «Минск-2»**

*1 кастрычніка – Дзень настаўніка*
*Віншуем Вас, Настаўнікі!*

**Герман Крупин**

*Когда откроются сердца*
*Когда сентябрь у школьного порога*
*Рассыплет нежных флоксов лепестки,*
*Начнётся ваша трудная дорога,*
*Как говорят, с нетронутой доски.*
*Пусть будет меньше праздников, чем буден,*
*Но тот, кто стал учителем, поймёт,*
*Какое счастье – быть полезным людям,*
*Учить Его Величество – Народ!*
*Нести ему дар мудрости и знанья*
*И доброты своей сердечный свет –*
*Нет на земле ответственней призванья*
*Почётнее и радостнее нет..*
*Бессмертными идеями очерчен,*
*Пусть будет труд ваш честен до конца,*
*И вам тогда откроются навстречу*
*Сограждан юных чистые сердца.*
*И пронесут они, как эстафету,*
*Как память об учителе своём,*
*Стремленье краше сделать землю эту,*
*Планету, на которой мы живём!*

**А. Ляхаў**

## Закон што дышла?

20 верасня ў сваім выступленні па раённаму радыё намеснік старшыні акруговай выбарчай камісіі Белавежскага выбарчай акругі №7 Васечка Н.Г. паведаміла жыхарам Пружаншчыны, што начальніку раённай інспекцыі прыродаахоўных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя Георгію Разанку было адказана ў рэгістрацыі ў якасці кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, быццам бы з-за няпоўных дадзеных аб яго двходах.

У гэты ж дзень Цэнтрвыбаркам вывучыўшы дакументы Разанкі Г.Г., адмяніў рашэнне акруговай камісіі. Справядлівасць аднаўлена! Можна віншаваць Разанку Г.Г. з пешай перамогай у выбарчай кампаніі.

Аднак з усяго, што адбылося з кандыдатам на гэтым этапе выбараў напрошваецца пытанне да Васечкі Н.Г. ды і іншых членаў акруговай камісіі, якім Законам яны кіраваліся, калі 14 верасня адказалі Разанку Г.Г. у рэгістрацыі, тым самым адняўшы ў яго 12 дзён, з адведзеных на перадвыбарчую агітацыю? Што гэта: некампетэнтнасць, ці выкананне звычайнага заказа? І тое, і другое не робіць гонару ні акруговай камісіі, ні тым органам, якія вызначалі яе склад.

## НАВІНЫ

На мінулым тыдні Пружаны наведала дэлігацыя прадстаўнікоў Інфармацыйнай службы Амбасады Злучаных Штатаў Амерыкі на чале з главой гэтага ведамства Майклам Райнертам. Сустрэча мела афіцыйны характар і доўжылася больш за гадзіну. Прадстаўнікі амбасады абмеркавалі пытанні і праблемы, якія датычаць недзяржаўных грамадскіх арганізацыяў Пружаншчыны. З боку Пружан на сустрэчы былі прадстаўнікі грамадскіх арганізацыяў ("Яравіт", "Грамадзянскі форум", іншыя грамадзяне). Акрамя Пружанаў яны наведалі іншыя гарады вобласці.

Грамадскае аб'яднане " Яравіт" атрымала ад прадстаўніцтва ААН у Беларусі магчымасць бясплатнага доступу да сусветнай інфармацыйнай сеткі "Інтэрнэт". Гэтая адзінае грамадскае аб'яднане вобласці якая атрымала такую магчымасць. "Яравіт" у бліжэйшы час плануе арганізаваць шырокі доступ лідараў і актывістаў грамадскіх арганізацый да карыстання інфармацыйнымі рэсурсамі "Інтэрнэт".

Каталіцкая парафія так і недачакаўшыся станоўчага вырашэння пытання перадачы былых, належачых касцёлу будынкаў у г.Пружаны, набыла ва ўласнасць пустуючы будынак былой музычнай школы па вул. Савецкая, 24. Гэта адзін са старэйшых будынкаў горада. Ён быў узведзены ў 1828 годзе, як павятовае казначэйства. Парафія мяркуе арганізаваць у ім рэлігійна-культурны цэнтр.

22 верасня ў чарговы раз неадбыўся аўкцыён па продажы раённай камунальнай уласнасці па прычыне адсутнасці жадаючых яе набыць. Адной з галоўных прычын зніжэння цікавасці да маёмасці былых вайсковых гарадкоў з боку новых патэнцыяльных уласнікаў з'яўляецца яе высокі кошт, які ўтварыўся ў выніку апошняй дзяржаўнай пераацэнкі ў студзені 2000 г., калі будынкі падаражалі ў 12 раз. У выніку адсутнасці ў бюджэце неабходных сродкаў на іх належную ахову і ўтрыманне маёмасць хутка псуецца, а будынкі разбураюцца. Пружанскі райвыканкам бачыць выйсце ў правядзенні аўкцыёнаў па продажы маёмасці метадам паніжэння першапачатковага кошту, аб чым 12 верасня было прынята адпаведнае рашэнне за №1119



У 1933 годзе быў устаноўлены помнік 40 паўстанцам 1863 года. З
прыходам Савецкай улады быў разбураны. У чэрвені 1989 года сіламі
грамадскасці быў адноўлены, але 1997 годзе быў наўмысна растраля-
ны з верталета.
Таварыства беларускай мовы імя Ф.Срêкарыны, адшукала сродкі для
яшчэ аднаго аднаўлення помніка, адкрыццё якога адбудзецца 8 каст-
рычніка.
Падзеям тых далёкіх часоў прысвячаецца гэты артыкул.

**І.Машкала**

# ШЛЯХАМ СВАБОДЫ

Крызіс феадальнага ладу, неабходнасць сацыяльна-палітычных пераўтварэнняў і імкненне да аднаўлення нацыянальнай незалежнасці Польшчы сталі галоўнымі прычынамі паўстання ў Польшчы, Беларусі і Літве ў 1863 -1864 гадах.

Яшчэ ў канцы 1861 года ў Польшчы арганізацыйна аформілася два палітычныя лагеры — "белыя" і "чырвоныя". Барацьба паміж левай і правай групоўкамі "чырвоных" адбілася на праграме паўстання. Галоўная роля ў падрыхтоўцы паўстання належала Цэнтральнаму Нацыянальнаму Камітэту (ЦНК) у Варшаве - кіруючаму органу "чырвоных".

22 студзеня 1863 года ЦНК выдаў маніфест з заклікам да паўстання і два аграрныя дэкрэты, паводле якіх сяляне надзяляліся зямлёй, якой карысталіся, а беззямельныя ўдзельнікі паўстання атрымлівалі каля дзвюх дзесяцін зямлі. ЦНК звярнуўся з заклікам да насельніцтва Беларусі і Літвы падтрымаць паўстанне, якое пачалося ў Польшчы ў ноч на 23 студзеня 1863 г.

Паўстанцы нападалі на нявялікія правінцыйныя гарнізоны. Падобныя дзеянні адбываліся і ў Пружанскім павеце.

### *Ад Сямяцічаў да Пружан*

Утвораны ў м. Сямяцічах Бельскага павету невялікі атрад паўстанцаў пад кіраўніцтвам Рамана Рагінскага пасля сутычкі з рускімі войскамі і паражэння каля Каралеўскага Мосту, позна вечарам дабраўся да м. Шарашова. У атрадзе налічвалася 42 чалавекі. Некалькі паўстанцаў адступаючы з-пад Каралеўскага Мосту, ўтапіліся ў рацэ Лясной, а ноччу напярэдадні ім прыйшлося заначаваць на балоце, дзе ўсе параненыя памерлі. Амаль увесь атрад быў разгромлены. Рэшткі атрада, прыбыўшыя ў м. Шарашова, выглядалі вельмі замучанымі, галоднымі, абарванымі і, што яшчэ горш, без усялякай зброі. Але ў Шарашове патрыятычна настроеная мяшчанства прыняло паўстанцаў найлепшым чынам.

Тут атрад быў накормлены, забяспечаны адзеннем, бялізнай. У мясцовых яўрэяў Рагінскі набыў 9 пудоў пораху і капсуляў да патронаў. У Шарашове атраду паўстанцаў стала вядома, што ў 18 кіламетрах адсюль, у г. Пружаны размясцілася каманда аховы з 250 ружжаў. Яна займае каменную казарму ў самым цэнтры горада і, напэўна, не ведае аб тым, што паблізу знаходзіц-ца паўстанцкі атрад.

Рагінскі загадаў нечакана напасці на Пружаны, бо, як сказаў, "дасць знаць аб сабе і хоць трохі адпомсціць за Каралеўскі Мост". З гэтай мэтай у шарашоўскіх мяшчан былі ўзяты падводы, і 13 лютага раніцай атрад уступіў у Пружаны.

Перад казармай стаяў вартавы, якога Рагінскі абясшкодзіў. У гэты час паўстанцы ўдарылі па казарме, якая ўяўляла сабой вялікі будынак з прыбудаванымі па баках невялікімі памяшканнямі, дзе на саламяным падсціле спалі жаўнеры. Некалькі выстралаў, зробленых унутры казармы, зрабілі невераго дны перапалох. У паніцы жаўнеры здаліся. Зброю і боепрыпасы яны самі вынеслі да вазоў.

Рагінскі пазней ўспамінаў, што было ўсіх палонных 250 чалавек: "Два разы столькі, колькі нас". Улічваючы ўсе абставіны, аперацыя была на рэдкасць паспяховай. У тэлеграфнай дэпешы для апраўдання няўдалых дзеянняў карнікаў камендант Брэсцкай крэпасці Носціц дакладваў, што паўстанцаў было 200 чалавек, што рускія жаўнеры абараняліся адчайна, што тры з іх палегла, а дзевяць было паранена, што жаўнер, які стаяў каля казначэйства, атрымаў ажно восем ран.

Забраўшы вялізарную суму грошай з казначэйства (10.809 рублёў) і зброю Рагінскі адпусціў палонных жаўнераў, з турмы былі выпушчаны вязні. Гарадская ўлады аказаліся не ў стане даць адпор паўстанцам. Начальнік пружанскай каманды ўнутранай аховы збег з горада, пераапрануўшыся ў сялянскае адзенне.

Гатыя падзеі нарэшце разбудзілі мястэчка. Мясцачкоўцы дастаткова добра прынялі паўстанцаў, а некалькі маладых людзей добраахвотна ўліліся ў шэрагі паўстанцаў. Тое, што колькасць папаўнення, нават у выніку так выдатна праведзенай аперацыі была нязначнай, павінна было пераканаць Рагінскага, што яго паход на Беларусь не будзя мець поспеху і разумення сярод мясцовага насельніцтва у гэты перыяд паўстання.

Адпачыўшы некаторы час у Пружанах, паўстанцы прынялі рашэнне рухацца на Кобрын з далейшым намерам перабрацца на Валынь. Павозкі паўстанцаў раз'ехаліся ў розных накірунках, каб яшчэ больш нарабіць шуму і заблытаць пагоню.

Падарунак Носціцу на дарозе на Кобрын паўстанцы заехалі да маёнтка Шэміёты, дзе і заначавалі. Тут даведаліся, што генерал Носціц быў ужо ў Пружанах і, што з Кобрына насустрач паўстанцам выйшаў яшчэ адзін атрад карнікаў. Ведаючы, што Носціц з хвіліны на хвіліну можа быць у маёнтку, Рагінскі вырашыў выступіць далей і напаследак напісаў генералу Носціцу пісьмо, якое палажыў у трафейныя цыгары са словамі: "Генерал! Прабач, што не дачакаўся цябе, каб ты моцна не сумаваў астаўляем табе гатыя цыгары, а самі крочым далей". Прыбыўшаму з невялікім спазненнем генералу Носціцу Шэміёт уручыў пісьмо паўстанцаў. Збіты з толку рознымі данясеннямі, Носціц дакладна не ведаў, у якім канкрэтна накірунку рушылі паўстанцы.

### *Здрада і страты*

А Рагінскі ў гэты час фарсіраванным маршам ішоў у бок Кобрына, забіраючы па дарозе коней, палячы масты. Але ў гэты час у атрадзе паявіліся разнагалоссі наконт далейшага маршруту. Сангін з часткай атрада ні ў якім разе не хацелі ісці на Валынь і дабіваліся вяртання назад у пушчу. Да іх далучыўся і Рыльскі. Дарэмна рагінскі тлумачыў ім, што, калі яны са сваімі людзьмі аддзеляцца, дык нарвуцца дзе-небудзь на праціўніка і загінуць, што толькі агульнымі намаганнямі можна штосьці зрабіць, што патрэбна аб'ядноўваць людзей. Але ні Сангін, ні Рыльскі непаслухалі Рагінскага і рашуча былі настроены на вяртанне. Да іх далучылася 50 чалавек, якім Рагінскі аддаў частку зброі, захопленай у Пружанах, палову боепрыпасаў і грошай. Раздзел гэты не прынёс поспеху. Раніцай 15 лютага атрад Рыльскага натыкнуўся на адну з чатырох калон генерала Носціца, якая складалася з трох узводаў пяхоты і 40 казакаў пад кіраўніцтвам палкоўніка Вімберга (параненага пад Каралеўскім Мостам).

Пасля ўпартага супраціўлення ў лесе амаль увесь атрад загінуў з абодвума сваімі правадзіцелямі.

У тэлеграме Носціца гаварылася, што паўстанцаў загінула 83 чалавекі (як вядома, іх усіх было каля 50), параненых было 30, у палон трапіла - 14. Пры гэтым узяты штандар), 25 карабінаў, косы, пікі, 35 коней, два вазы з порахам, каштоўныя паперы з пружанскай касы. Страты рускіх склалі: двое забітых і трое параненых.

У "Гісторыі паўстання польскага народа ў 1861-1864г.г." (т.1,с.179) змешчаны аб той бітве наступныя факты: Рыльскі дайшоў да Рэчыцы, 15 лютага спыніўся для адпачынку і харчавання ў бліжэйшым лесе.

Усе пасля цяжкага пераходу адпачывалі, акрамя дзяжурыўшых ля агню і рыхтаваўшых ежу. Адзін з далучыўшыхся да паўстанцаў у Пружанах, член павятовага суда Ізбіцкі, непрыкметна пакінуў паўстанцаў, дабраўся да Рэчыцы, узяў фурманку і паехаў у Пружаны здавацца на міласць маскалёў.

Не марудзячы, як толькі даведаліся аб паўстанцах, тры калоны пяхоты, 75 казакаў і 5 стражнікаў Белавежскай пушчы ў суправаджэнні пана Асташэўскага акружылі паўстанцаў у трохкутнік, з двух бакоў якога былі руская карнікі, а з трэцяга – незамерзшая рака Лясная.

Пачалася аблава. Пад перакрыжаваным агнём паўстанцы былі прыціснуты ў лес да р.Лясной. Захопленыя знянацку паўстанцы былі не ў стане абараніць сябе.Яны пазалазілі на дрэвы, пахаваліся ў ямы. Карнікі з паляўнічым азартам адшуквалі і расстрэльвалі іх. Сярод забітых быў сам Рыльскі і 10 яго падначаленых. Некалькі паўстанцаў загінула ў рацэ. Васьмярым удалося выратавацца. Адзін паўстанец загінуў гераічнай смерцю. Прарваўшыся праз ланцуг правага крыла рускіх карнікаў, будучы смяротна параненым, ён выбег у поле дзе стаяў рэзерв праціўніка. Насустрач паўстанцу выбеглі фельдфебель і шараговы, каб захапіць яго. Паўстанец, аслаблены ранай, упаў на зямлю. Лежачы, ён убачыў бягучых да яго жаўнераў і выстраламі паваліў спачатку шараговага, а затым і фельдфебеля. Там жа закончыў і сваё жыццё.

Карнікі на наступны дзень пахавалі забітых паўстанцаў ля перакрыжавання дарог ля Рэчыцы, а палонных даставілі ў Белавежу.

Напад паўстанцаў на Шарашова і Пружаны 12 і 13 лютага 1863 года выклікаў вялікую колькасць карэспандэнцыі паміж Расійскімі ўладамі з якой добра відаць адносіны да паўстання мясцовага насельніцтва: мяшчан, шляхты, сялянства, чыноўніцтва, духавенства.

Аб адносінах да паўстання мясцовага насельніцтва піша ў сваім лісце гродзенскі губернатар ( 3.4.1863г.): "Да майго ведама дайшло, што перад нападам паўстанцаў на г. Пружаны ў тамтэйшага маршалка мясцовай шляхты адбыўся з'езд памешчыкаў...для абмеркавання розных спраў, у тым ліку...(справы)... схілення жыдоў да ахвяравання грошай на падтрымку паўстання, у тым ліку і сярод пружанскай шляхты.

### *Кіраўнікі паўстанцаў*

Начальнікам паўстанцкага руху ў Пружанскім павеце рашэннем Літоўскага Нацыянальнага камітэта прызначаецца Міхаіл Жукоўскі. Яго памочнікам Метард Скачыньскі з маёнтка Галены. Моладзь са зброяй у у руках папаўняла паўстанцкія атрады. Старэйшае пакаленне займалася забеспячэннем атрадаў правіянтам, збірала грошы. Жанчыны шылі для паўстанцаў бялізну і адзенне. Усё гэта хавалася ў сакрэтных тайніках, з якіх дастаўлялася ў паўстанцкія атрады. Разам з памешчыкамі сярод паўстанцаў былі беззямельная шляхта, дваровыя людзі, мяшчане, чыноўніцтва. Дзякуючы значнай колькасці праваднікоў - ляснічых, добра ведаўшых пушчу паўстанцкія атрады былі няўлоўнымі.

Існавала цэлая разведвальная служба, якая іфармавала паўстанцаў аб руху расійскіх войскаў. Пад выглядам будаўніцтва касцёла ў Пружанах у адкрытую ксяндзом Гансеўскім збіраліся грошы, на якія закупалася ўсё неабходнае для паўстанцкага руху і захоўвалася да выпадку ў старым касцёле. Першапачаткова абставіны складаліся накарысць паўстанцам. У красавіку 1863 года ў лясах пад Дзікім балотам у Пружанскім павеце ўтвараецца атрад пад кіраўніцтвам Смульскага (3 атрада Рагінскага). Праз некалькі дзён да яго далучаецца атрад сфарміраваны з выхадцаў Ваўкавыскага павета пад кіраўніцтвам капітана Густава Стравінскага вядомага пад псеўданімам "Млот". Гэты дзеясны і адважны камандзір узначальвае аб'яднаныя сілы і накіроўваецца з імі ў Ружанскую пушчу, дзе да іх далучыліся яшчэ некалькі паўстанцкіх групаў, у тым ліку і пружанскай (кіраўнік "Влодэк").

Аб дзейнасці паўстанцаў у Пружанскім павеце часта паведамляецца у рапартах гродзенскаму губернатару.

У ноч з 2 на 3 мая 1863 года з ліку жыхароў мястэчка і маёнтка Сялец, горада Пружаны і іншых населеных пунктаў зфарміраваўся атрад, які размясціўся ў лясах вакол Сяльца.

Пружанскі ваенны начальнік данасіў камандуючаму войскамі ў паўднёвай частцы Гродзенскай губерні, што высачыць гэты атрад не ведаючы мясцовасці немагчыма.

У маі 1863 года паўстанцы працягваюць нападаць на мясцовыя паштовыя станцыі і заставы. 2 мая атрад колькасцю 30 чалавек напаў на паштовую станцыю Свадзьбічы. Паўстанцы захапілі 18 коней, шэсць вазоў і зброю. На наступны дзень атрад з 28 чалавек з'явіўся ля вёскі Міхалін, а 12 мая паўстанцы напалі на Бярозаўскую заставу, знішчылі шлагбаўм, забралі казённыя грошы і адзенне, абозу 40 падвод з тканінай і іншым.

працяг у наступным нумары

Анна НОВОПОЛЬЦЕВА-ОРЛОВА

# Чем опасна чесотка и как от нее избавиться

**Думаете, чесотка, вши и грибок на ногтях свойственны исключительно бомжам, цыганам и прочему ароматному народцу? Придется вас разочаровать. В последнее время мы все чаще попадаем в ее «объятия»: то подцепим в сауне, то на пляже, то дети привезут из лагеря отдыха.**



У вас чудовищно чешется все тело, особенно ночью. В тех местах, где кожа особенно нежная - между пальцами, на локтевых сгибах, под коленками и в прочих складочках, - странная сыпь, больше всего напоминающая скопление отрезков, меленько прострочённых на машинке. В начале отрезка -дырочка, и дырочка же в конце. А это почти наверняка значит, что у вас под кожей завелся малосимпатичный зверек - чесоточный клещ.

Самка такого клеща пробуравливает в коже отверстие (первая дырочка) и, как маленький крот, ползет под кожей, попутно, в отличие от крота, откладывая яйца. Рыть свои норы эта дама предпочитает отчего-то ночью - вот почему вы не можете спать от зуда, - а к утру выбирается на поверхность (вторая дырочка). Яйца же превращаются в деток, те за день набираются сил и к ночи отправляются выбирать места для собственных норок.

Так что, как видите, достаточно, чтобы на вас перебралась всего одна зверюга женского пола и, чесотка обеспечена.

Чаще всего чесоточный клещ переползает с человека на человека при половом контакте, но также довольно много шансов заполучить его при простом рукопожатии или попользовавшись полотенцем, например, в гостях, или же ваш ребенок может принести его в дом из любимой песочницы.

Итак, выходит, что шансов не заразиться от друзей, которые сами могут еще и не подозревать о своей болезни, у нас маловато.

Единственный, да и то не самый надежный выход - мыть руки в любую минуту, как только умывальник оказывается в пределах досягаемости (вдруг зловредное насекомое уже сидит на вашей коже, но еще не успело залезть внутрь!). А если вы уж ну очень сильно боитесь подцепить чесотку, используйте следующий рецепт:

перед выходом из дома смазывайте руки смесью двух-трех капель эфирного масла с жирным кремом и не смывайте ее весь день.

А теперь об интересном. Что делать, если чесоточный клещ у вас все-таки завелся? Во-первых, надо обязательно обратиться к врачу (а вдруг это не чесотка, а какая другая напасть!). А во-вторых, следуя его указаниям, вам придется немного посидеть дома, с ног до головы обмазанными мазью.

Придя домой с поставленным диагнозом и выбранным лскарсшом (о них речь ниже), хорошенько вымойтесь с мылом, ополоснитесь прохладной водой и тщательно вытритесь. Теперь - за работу!

Для борьбы с клещом существуют несколько средств. Пятипроцентной перметриновой мазью нужно намазать все-все-все тело (не оставляя белых пятен!) и просидеть так 12 часов, а лучше сутки. Есть еще «Лин-дан-крем» - его надо смывать уже через 8-12 часов, но через неделю процедуру стоит повторить. Вместо мазей можно использовать аэрозоль «Спре-галь», он по идее убивает всех клещей за 12 часов. Еще одно средство - бензилбензоатную эмульсию, смешиваемую обычно с водой и хозяйственным мылом, - лучше не пробовать: хотя клещи от нее мрут, как мухи, но ваша кожа тоже может не перенести такого лечения, особенно если вы аллер-гик.

Более мягкий препарат - березовый деготь (спросите в аптеке любую мазь на его основе);

его же можно использовать для убийства вшей и грибка, о которых у нас пойдет речь дальше. Вот только пахнет он не ах-ти, но до запаха ли нам сейчас...

Куда ароматнее разнообразные эфирные масла: «Корица», «Лемонграсс», «Майоран», «Мирра», «Чабрец», «Чайное дерево», «Эвкалипт», «Береза». Их нужно будет смешать с маслом для массажа:

три-четыре капли эфирного масла на 20 граммов массажного. Только обязательно попробуйте сперва помазать какую-нибудь малозначительную часть тела, если таковая у вас найдется, и подождать реакции: вдруг у вас индивидуальная непереносимость того или иного масла.

Жидкие средства удобнее всего наносить на тело мягкой широкой кистью, кремы растирать пальцами. Не забудьте намазать кожу под ногтями, складки за ушами и прочие места, о которых обычно не вспоминаешь. Единственное исключение - глаза, ноздри и рот:

ни в коем случае не допускайте, чтобы туда попали противочесоточные средства.

Позаботьтесь об одежде: все, что вы носили в последние дни, выстирайте, прокипятите и прогладьте с обеих сторон.

Если лечение не помогло, не повторяйте его и не экспериментируйте с новыми препаратами, не посоветовавшись с врачом! Обычно клещи гибнут сразу же после первой процедуры, но тело может продолжать чесаться еще недели две.

Как правильно чесаться?

Конечно, зудящие места лучше ногтями не скресги. Но этот совет, понятно, пропадет втуне: побороть желание почесаться часто не могут люди даже с очень сильной волей. Так что если уж чесаться - то чесаться правильно.

1. Помассируйте кожу подушечками пальцев - иногда этого бывает достаточно.

2. Почешитесь через одежду или через носовой платок.

3. Во сне контролировать себя невозможно, поэтому ложитесь спать в перчатках.

4. Примите холодный душ или сядьте под вентилятор (холод обычно снимает зуд без почесывания). Соответственно, не пользуйтесь горячей водой, избегайте жары, постарайтесь не потеть.

5. Носите просторную хлопчатобумажную одежду.

## «Крыша поехала!»

Стоит мужичонка пьяненький в автобусе,качается:

- Щас сосчитаю до 48, и вырвет меня...

Пассажиры думают:языкто у него заплетается. Пока он сосчитает-мы выйти успеем. Говорят:

- Ну , считай.

- Шестью восемь-сорок восемь...

***

В пять часов утра жена встала с постели и пробралась в чулан. Там она разбила молотком катушки от закидов, согнула о колено удочки, облила кислотой лески и поплавки, разрезала ножом резиновые сапоги и выбросила с балкона рюкзак. Потом она неслышно легла в кровать и нежно прижалась щекой к плечу мужа... Жить ей оставалось не более часа...

***

Супружеская пара гуляет по парку. Муж постоянно оглядывается на девушек - чуть слюна изо рта не капает. Супруга долго терпит, а потом говорит:

- Нагуливай аппетит, дорогой, нагуливай. Кушать все равно дома будешь.

***

Звонок в психушку:

- Посмотрите пожалуйста, есть кто нибудь в восемнадцатой палате ?

- Нет, никого нет, а что ?

- Ага, значит мне все таки удалось сбежать !!!

# ВІНШАВАННІ

***Дорогие наши мама и папа, бабушка и дедушка Анна Николаевна и Георгий Николаевич Казакевичи. Примите сердечные поздравления с 25-летием совместной жизни!***

Вы – друзья наши в жизни самые верные, всегда душой мы к вам летим! За мудрость слов, за ласку, нежность – за всё мы вас благодарим.

Низкий вам земной поклон, родные, за ваши мягкие отзывчивые сердца, любовь и заботу о нас.

***С любовью дети и внук.***

***Дорогой и любимый наш сын и брат Мельник Денис!***

***Поздравляем тебя с 12-летием!***

Желаем тебе крепкого здоровья, успехов в учёбе. Пусть в жизни твоей не будет огорчений и исполнятся все твои желания.

***Любящие тебя мама, папа и сестра Наташа***

***Друзья поздравляют с днём рождения***

***Прокопович Светлану!***

Желаем счастья в этот день,<br>
Добра от тех, кто будет рядом.<br>
Улыбок нежных, как сирень,<br>
И солнечных лучей в награду.<br>
Но не грусти ты о годах –<br>
В любых годах и вкус, и сладость.<br>
Лишь были бы с тобой всегда<br>
Семья, друзья, здоровье, радость.<br>
Красивого тебе пути,<br>
крепкого здоровья и хорошей, большой любви!

***С уважением – семья Трофимчук***

***Шалаша Андрея с днём рождения поздравляют родные***

Сегодня день для всех обыкновенный,<br>
Но для тебя прекрасней нет.<br>
Хороший день твоего рождения –<br>
Тебе сегодня 15 лет.<br>
Будь самым добрым, ласковым, красивым,<br>
Пусть радость светится в твоих глазах,<br>
Пусть будет больше дней счастливых,<br>
А неудач над головою – никогда.

***С уважением – тётя Тома, Паша и Оля.***

***От всей души поздравляем с днём рождения дорогую, любимую сестричку и тётю Шалаш Людмилу Степановну!***

Вам – не много и не мало.<br>
Никто не смотрит ныне на года.<br>
Один лишь фактор в жизни важен,<br>
Чтоб молодой была всегда душа.<br>
Тогда и блеск в глазах нисколько не тускнеет,<br>
Тогда горят и спорятся дела.<br>
Желаем крепкого здоровья, любви на долгие года.<br>
Не знай беды, живи счастливо,<br>
Чтоб говорили вслед всегда:<br>
«Как эта женщина красива,<br>
Как бесконечно молода!»

Крепкого здоровья, радости в жизни, а так же быть всегда доброй, весёлой, красивой и счастливой, всех тебе земных благ.

***С любовью твоя сестра Тамара***
***и племянники Павел и Ольга***

***Поздравляю с днём рождения Шаповала Александра***

Желаю счастья и чуть-чуть печали.<br>
Желаю, чтоб друзья не огорчали.<br>
И всё задуманное пусть свершиться,<br>
Ведь ради этого и стоило родиться.

***Твоя подруга Надя***



## АБ'ЯВЫ

### ПРАДАМ

- пральную машыну-аўтамат б/у Тэл. 7-14-17.

***

Мякі куток "Аір" 200 у.е. Аўтамабіль WV Джетта D, 87 г.в. 1700 у.е. *Тэл. 2-07-59*

### ЗДЫМУ

- 3-х пакаёвую кватэру ў г.Пружаны. Тэл. 2-01-34 (пасля 19.00)

Голас Пружаны
Рэг. № 1323 ад 16.07.1999 г.
Заснавальнік і рэдактар Язэп Машкала

Адрас рэдакцыі: 225140, г. Пружаны, вул.Завадская, 16
Тэлефон: (01632) 2-00-40
E-mail: golasp@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.

Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.
Падпісана да друку 28 ліпеня 2000 года.
Час падпісання 15:00
Надрукавана ў Слонімскай узбуйненнай друкарні, г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.
Наклад 1000 экз. Заказ № 3094